Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# Настаўніцкая газета

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 38(5369)
Чацвер,
28 сакавіка
2002 года

Семінары

## Прызначэнне выкладчыка - не вучыць, а дапамагаць у вучобе

***"Методыка выкладання - гэта не проста сістэма метадаў і спосабаў навучання, гэта, у першую чаргу, талент, самабытнасць, наватарства педагога" - такі быў лейтматыў навукова-метадычнага семінара пад назвай "Аб удасканаленні методыкі выкладання і праблемах універсітэцкай педагогікі", які адбыўся ў Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.***

У семінары ўзялі ўдзел прадстаўнікі сталічных ВНУ: Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка, Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта, а таксама Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы Белдзяржуніверсітэта.

Як жа вызначаюць сваё крэда сучасныя педагогі, якія складнікі выдзяляюць у сваім майстэрстве? Вось якія адказы прагучалі на семінары. Выкладчык павінен займацца навуковымі даследаваннямі, у процілеглым выпадку ён вельмі хутка ператворыцца ў рамесніка. Пажадана, каб педагог, акрамя ведаў па дысцыпліне, мог прапаноўваць студэнтам звесткі аб тых ці іншых сучасных (падчас спрэчных) навуковых канцэпцыях, мог бы аргументавана іх крытыкаваць. Гэта дазволіць яго слухачам рыхтавацца да самастойнай творчай работы.

Для выкладчыка важна не толькі глыбокая спецыялізацыя, але і шырокая эрудыцыя: лектар паведамляе нашмат болей, чым ведае. Няўменне даходліва тлумачыць спецыфічны матэрыял - гэта бясспрэчны мінус. Часам выкладчыкі пішуць на дошцы грувасткія формулы, як кажуць, з паперы. Пры тым ад студэнтаў патрабуюць ведаць іх на памяць. Апошняе датычыцца выкладчыкаў спецыяльных дысцыплін тэхнічных ВНУ. Як аказалася, пераважная большасць з іх не мае педагагічнай адукацыі.

Выступоўцы неаднаразова падкрэслівалі, што настаўнік існуе не для таго, каб вучыць, а для таго, каб дапамагаць у вучэнні. Гэты пастулат сёння асабліва актуальны для вышэйшай школы. Пераход да шматузроўневай падрыхтоўкі, ініцыіраваны ў айчыннай сістэме адукацыі, вымагае павелічэння долі самастойнай работы студэнтаў. Педагогу ж адводзіцца роля "апекуна" ці "кантралёра". Так, да прыкладу, гульневы падыход, які рэалізуецца ў навучальна-даследчыцкай тэхналогіі мае на ўвазе адносіны да навучання як да гульні ў будучую прафесію. Па меры набліжэння студэнта да "фіналу" вучобы, выкладчык павінен паступова вызваляць яго з-пад сваёй апекі. Аднак у гэтым выпадку размова ідзе не аб педагагічнай методыцы, а аб адукацыйнай тэхналогіі, што не адно і тое ж. Педагогі-наватары не пакідаюць пасля сябе школ ці проста паслядоўнікаў (за выключэннем адзінкавых выпадкаў). Іх талент і самабытнасць - нешта непераемнае, гэтаму нельга навучыць. Зусім іншы - тэхналагічны погляд на адукацыю.

Тэхналагізацыя сучаснай адукацыі - адзін са шляхоў яе развіцця. Яна ні ў якім разе не азначае паменшэння ролі выкладчыка, ператварэння яго ў "маленькі вінцік" у складаным адукацыйным механізме. Адукацыйныя тэхналогіі робяць вучэбны працэс залежным не ад канкрэтных асоб - педагагічных кадраў, а ад іх сумеснай, калектыўнай творчасці.

**Аляксандр АНДРЫЯНАЎ.**

Перыёдыка

## "Адукацыя і выхаванне"

***Выхад трэцяга нумара часопіса стаў падзеяй для педагагічнай грамадскасці: упершыню панарамна прадстаўлены вопыт школьнага жыцця асобна ўзятага раёна. "Ластаўкай" стаў Слуцкі раён.***

Першы намеснік старшыні райвыканкама на сацыяльна-культурнай сферы П.Б.Даўгучыц распавядае аб самаадданай працы ўстаноў адукацыі, культуры, спорту і турызму, аховы здароўя, аб'яднаных адзіным клопатам – зрабіць усё магчымае для адукаванасці, культуры і здароўя случчан. Уражвае факт: менавіта за апошнія гады ўзноўлена работа 6 дзіцячых садоў, усе 30 дашкольных устаноў узяты на бюджэтнае фінансаванне, праводзіцца сацыяльная падтрымка здольных і адораных дзяцей, вялікая ўвага ўдзяляецца патрыятычнаму выхаванню моладзі і іншым адукацыйна-выхаваўчым праектам.

"Захоўваць і прымнажаць адукацыйныя здабыткі" – артыкул загадчыка раённага аддзела адукацыі Слуцкага райвыканкама І.А.Дзермана. 4567 вучняў, 818 дзетсадаўцаў – вось той патэнцыял Случчыны, якому ствараць будучыню ў XXI стагоддзі. Дыферэнцыраванае навучанне, вывучэнне прадметаў на паглыбленым узроўні, ліцэйскія класы, укараненне ў практыку аўтарскіх праграм – у школах, нацыянальная праграма "Пралеска", аўтарскія праграмы "Зачараванне", "Фізкульт-ура", методыка М.Мантэсоры "Першы крок" – у дашкольных установах – усё гэта стала важкай перадумовай для рэалізацыі права на дастойную кожнага юнага случчаніна адукацыю.

Выхаваўчыя праграмы ўражваюць сваёй шматаблічнасцю. У прыватнасці "Узаемадзеянне" ставіць мэтай "скаардынаваць дзеянні ўсіх, хто дбае аб выхаванні дастойнай змены". І тое, што ў кожнай школе распрацаваны выхаваўчыя праграмы, мяркуем, прымусіць задумацца педагагічную грамадскасць Беларусі і выкліча ў кожнага настаўніка жаданне пераняць цікавы вопыт случчан і прымножыць яго. Тыя 610 школьных педагогаў, што шчодра засяваюць зернем ведаў адукацыйнае поле раёна, несумненна могуць ганарыцца плёнам сваёй дзейнасці!

"Садружнасць, выгадная для ўсіх" – артыкул З.М.Міраненка, намесніка загадчыка аддзела адукацыі Слуцкага райвыканкама. У ім расказваецца пра Грэскую сярэднюю школу, "будынак якой ганарліва ўзвышаецца над вёскай". 383 вучні, 49 настаўнікаў (24 з іх – выпускнікі школы!) адчуваюць сябе адзінай сям'ёй, таму што кожны, хто трапляе ў гэты аазіс ведаў, назаўсёды пранясе ў сэрцы любоў да роднай школы. Тут працуюць творчыя педагогі. Інакш ці існавала б профільнае вывучэнне прадметаў (філалагічны, хіміка-біялагічны, фізіка-матэматычны профілі), варыятыўная сістэма адукацыі і выхавання? Ці стварыўся б Грэскі сельскі сацыяльна-педагагічны комплекс? А вынікам работы педагогаў становіцца падрыхтоўка моладзі да стваральнай працы.

Матэрыялы шчырых спадзвіжнікаў педагогікі У.Ф.Савіцкага, Л.А.Палацінскай, І.М.Юрэвіч, С.А.Дайновіч, І.А.Яцук, Л.Ф.Дубік і іншых аўтараў увядуць чытача ў сапраўдны Эдэм творчасці і натхнення, прымножаных на адданую працу ўсіх удзельнікаў вучэбна-выхаваўчага працэсу.

Адкрыюць таямніцы Слуцкага краю артыкулы метадыста Слуцкай раённай базы юных турыстаў М.Л.Бродкіна, настаўніцы гісторыі Гольчыцкай сярэдняй школы А.С.Гурыновіч. Пра школьныя лясніцтвы раскажа арганізатар раённага аддзела адукацыі Г.М.Якаўчык, а эколаг Гацукоўскай сярэдняй школы С.В.Нямковіч увядзе чытача ў свет экалагічнай культуры.

Хто такія першацветаўцы? Пра работу дзяцей з піянерскай экалагічнай арганізацыі Падлескай сярэдняй школы разважае педагог-арганізатар гэтай школы Л.А.Лемеш. Аб тым, каб "кветкі жыцця" не сталі пустазеллем, расказваюць метадыст раённага аддзела адукацыі Т.А.Есіповіч ("Урокі спасціжэння прыгажосці і гармоніі"), дырэктар Падлескай сярэдняй школы Н.В.Магілявец ("Выхаванне характвом"), дырэктар Селішчанскай дзіцячай музычнай школы М.П.Зяневіч ("Музычная адукацыя даступная ўсім"), а метадыст раённага аддзела адукацыі І.А.Міронава і дырэктар Казловіцкага Дома культуры Л.К.Калядка ў назве свайго артыкула "Малакамплектнасць школы не перашкода для развіцця творчасці" закладваюць мудрую выснову: неталенавітых дзяцей, дзе б яны ні жылі, не бывае!

"Піянерскі рух на Случчыне" – тэма матэрыялу А.І.Някрасавай, метадыста раённага Цэнтра пазашкольнай работы, старшыні раённага савета Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыі. На Случчыне, на думку аўтара, удалося захаваць "багаты выхаваўчы патэнцыял дзіцячага руху", што станоўча ўплывае на выхаванне дзяцей у самадзейным калектыве.

Аб тым, як вучыць дзяцей клапаціцца аб сваім здароўі, расказвае дырэктар Паўстынскай сярэдняй школы А.Ф.Вераб'ёва. Менавіта школа, якую яна ўзначальвае, і вызначана як эксперыментальная пляцоўка па праблемах фарміравання здаровага ладу жыцця.

А вось як у 30 дашкольных установах раёна праводзяцца гульні-спаборніцтвы, "Малыя алімпійскія гульні", піша метадыст раённага аддзела адукацыі В.К.Овес ("Чэмпіёны на дашкольным узроўні").

Мяркуем, што публікацыя блока матэрыялаў са Случчыны стане імпульсам для натхнёнай працы і ў іншых рэгіёнах рэспублікі і ляжа трывалай цаглінай у падмурак сапраўды творчай працы педагогаў Беларусі. Дарэчы, часопіс, дзе апісваецца гэты цікавы вопыт, можна набыць у рэдакцыі.

В.А.Лабанок, асістэнт кафедры методыкі выкладання Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А.А.Куляшова, прапаноўвае сваё бачанне інтэграцыйнасці ведаў: сувязь матэматыкі і геаграфіі служыць уздымам як для настаўніка, так і для вучня (рубрыка "Пошук, даследаванне, эксперымент").

На старонках "АіВ" выступіла доктар псіхалагічных навук, прафесар кафедры прававой псіхалогіі Санкт-Пецярбургскага юрыдычнага інстытута генеральнай пракуратуры Расійскай Федэрацыі І.А.Гаркавая ("Псіхалагічныя асаблівасці развіцця падлеткаў-правапарушальнікаў"), метадыст Акадэміі паслядыпломнай адукацыі Л.Ф.Пускін ("Настаўнік, твая сістэма мер і вагаў").

Змешчаны ў часопісе "Правілы прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь на 2002 год" тэсты па беларускай мове і хіміі, што стане значнай дапамогай для сёлетніх абітурыентаў.

Перагорнута апошняя старонка выдання. І няхай усе гэтыя цікавыя, прывабныя матэрыялы стануць новым адкрыццём для ўдзячнага чытача.

**Людміла ЗАБАЛОЦКАЯ.**



Оля Гардзіцкая вучыцца ў дзесятым класе сярэдняй школы № 3 Бярозы. Яна любіць спорт — асабліва баскетбол. Спорт дапамагае ёй быць здаровай, вясёлай, энергічнай, добра займацца па прадметных дысцыплінах. Марыць Оля паступіць у ВНУ і атрымаць прафесію эканаміста.

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА.**

Пазашкольная педагогіка

## Асвету і культуру паяднаў фальклор

***21-24 сакавіка 2002 года ў Барысаўскім раёне прайшоў выязны Рэспубліканскі семінар спецыялістаў па фальклору абласных і раённых метадычных цэнтраў, кіраўнікоў фальклорных калектываў па тэме "Традыцыйная культура і дзеці: праблемы аднаўлення і выхавання", арганізаваны Беларускім дзяржаўным інстытутам праблем культуры.***

Семінар стаўся рэальным крокам у ажыццяўленні эксперыментальнага праекта "Танцавальны фальклор і дзеці" (аўтар - вядомы ў краіне фальклярыст, навуковы супрацоўнік лабараторыі традыцыйнага мастацтва аддзела народнай творчасці БелДІПК Мікола Козенка). Праект зацверджаны Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь яшчэ ў пазамінулым годзе і скіраваны на шматузроўневую, комплексную і доўгатэрміновую сумесную працу органаў і ўстаноў культуры і адукацыі ў галіне мастацка-адукацыйнай школьнай і пазашкольнай сістэмы выхавання сродкамі традыцыйнай народнай творчасці. У перспектыве прадугледжваецца не толькі танцавальны конкурс, у абавязковыя ўмовы якога ўваходзіць выраб дзецьмі этнічных строяў сваёй мясцовасці, але і правядзенне фальклорных чытанняў, выданне даведнікаў і навуковых прац. Па выніках рэалізацыі праекта ў 2003 годзе тры раёны будуць узнагароджаны спецыяльнымі прызамі Міністэрства культуры.

Сёлета ж правядзенне такога ва ўсіх сэнсах этапнага і маштабнага семінара (удзельнічалі каля 60 спецыялістаў з усіх куткоў краіны) прыпала на Барысаўшчыну зусім невыпадкова. Менавіта Барысаўскі раён за апошнія гады дасягнуў значных поспехаў у выхаванні школьнікаў сродкамі традыцыйнай народнай культуры дзякуючы перш-наперш аб'яднанню намаганняў тутэйшых сістэм культуры і адукацыі. Не апошнюю ролю ў гэтым сэнсе адыгралі асабістыя пазіцыі мясцовых кіраўнікоў культурна-адукацыйнай сферы: намесніка старшыні Барысаўскага райвыканкама Святланы Герасімовіч, загадчыка аддзела культуры Міхаіла Храпко і загадчыка аддзела адукацыі Івана Каратыша. На аснове абласных праграм з улікам рэгіянальных асаблівасцей тут распрацаваны ўласна барысаўскія ("Традыцыйная культура Барысаўшчыны: адраджэнне, развіццё, пераемнасць", "Спадчына" і інш.), дзякуючы якім навучальна-выхаваўчая праца ў раёне набыла мэтанакіраваны характар. Разнастайныя агляды-конкурсы і фальклорныя мерапрыемствы, якія ладзяцца ў Барысаўскім раёне сумесна культурнымі і адукацыйнымі ўстановамі, сведчаць пра плённасць такога падыходу, здольнага вырашаць ні больш ні менш як комплексную задачу фарміравання светапогляду дзіцяці на аснове жывой нацыянальнай спадчыны.

У гэтым плане рэспубліканскі семінар "Традыцыйная культура і дзеці" паставіў шматлікія новыя праблемы і ў той жа час менавіта барысаўскім прыкладам адказаў на не вырашаныя ў іншых раёнах пытанні. Насычаная праграма ўключала як метадычна-практычныя заняткі са слухачамі, якія праводзілі вядучыя спецыялісты ў галіне фальклору (кіраўнік семінара Мікола Козенка, вядучы навуковы супрацоўнік лабараторыі традыцыйнага мастацтва аддзела народнай творчасці БелДІПК Тамара Варфаламеева, загадчык аддзела фальклору Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі Беларусі Вячаслаў Калацэй і інш.), так і ўрачыста-святочныя мерапрыемствы: адкрыццё Нова-Янчынскага Дома фальклору, канцэрт фальклорных калектываў у Вяляціцкім СДК, мастацкая імпрэза пераемнікаў і носьбітаў традыцый Мядоцкага краю з удзелам славутага этнафальклорнага аб'яднання Мётчанскай адукацыйна-выхаваўчай установы "Школа-садок" "Берагіня". "Сеансы аздараўлення", як хтосьці з удзельнікаў семінара на заключным круглым стале назваў выступленні барысаўскіх калектываў, добра лекавалі апантаных энтузіястаў пасля гарачых дыскусій.

**Мікола ЧЭМЕР.**

Навіны

## Студэнты БДЭУ пакарылі Расію

***У канцы мінулага года ў Маскве стартавала другая ўсерасійская алімпіяда па эканамічных і фінансавых дысцыплінах, якую праводзіў маладзёжны саюз эканамістаў і фінансістаў Расіі. Сем студэнтаў і аспірант БДЭУ прынялі ў ёй удзел, выслаўшы свае работы па правазнаўству, маркетынгу, аналізу гаспадарчай і банкаўскай дзейнасці. І вось прыйшла вестка з Масквы - усе студэнты БДЭУ сталі прызёрамі гэтай прэстыжнай алімпіяды.***

Напрыклад, студэнтка факультэта права Яніна Жолудзь заняла другое месца за работу "Рэформы П.Сталыпіна", такой жа высокай ацэнкі журы ўдастоена і навуковая работа аспіранта кафедры рэгіянальнага кіравання Аляксандра Аляксеева за распрацоўку тэмы "Ацэнка і забеспячэнне канкурэнтаздольнасці прадукцыі". Трэцяе месца ў намінацыі "Маркетынг" за работу "Таварна-знакавая палітыка ў Інтэрнет-маркетынгу" атрымалі студэнтка пятага курса Вольга Чарненка, а таксама пяцікурснік улікова-эканамічнага факультэта Мікалай Шырокі - у намінацыі "Папярэджанне банкруцтва і антыкрызіснае кіраванне" за навуковую работу "Распрацоўка дыскрымінантнай мадэлі для дыягностыкі банкруцтва прадпрыемстваў".

Чацвёртае месца занялі студэнты факультэта банкаўскай справы Вольга Маразевіч і факультэта права Вольга Маеўская. Пятымі аказаліся студэнты гэтага ж факультэта Юлія Макарэвіч і Дзмітрый Нілаў.

Трэба сказаць, што Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт быў адзначаны ў спецыяльных намінацыях: другое месца ў намінацыі "За арганізацыю актыўнага ўдзелу ў алімпіядзе" і чацвёртае месца ў намінацыі "За лепшую арганізацыю навукова-даследчай работы студэнтаў", пакінуўшы за сабой 238 ВНУ Расійскай Федэрацыі і тры ВНУ Рэспублікі Беларусь.

У інфармацыйным пісьме па выніках алімпіяды аргкамітэт прызнаў высокі ўзровень падрыхтоўкі студэнтаў БДЭУ і выказаў спадзяванне на далейшае плённае супрацоўніцтва. Так што калі будзе стартаваць трэцяя ўсерасійская алімпіяда па эканамічных і фінансавых дысцыплінах, удзельнікаў ад БДЭУ, магчыма, будзе яшчэ больш. Восем пераможцаў Алімпіяды заўтра ў Маскве прымуць удзел у цырымоніі ўзнагароджання прызёраў, а таксама ў Трэцім з'ездзе маладзёжнага саюза эканамістаў і фінансістаў Расійскай Федэрацыі і канферэнцыі, прысвечанай пытанням развіцця адукацыі.

**Антаніна ПЯТРОВА.**

## Заняткі адбудуцца ў музеі

***У Магілёўскім прафесійным агралесатэхнічным каледжы імя К.П.Арлоўскага дзейнічаюць ажно два музеі. Па сутнасці яны з'яўляюцца эфектыўным сродкам у барацьбе за душы навучэнцаў, у выхаванні ў іх любові да Радзімы, нацыянальнай самасвядомасці, увогуле садзейнічаюць павышэнню ўзроўню норм маралі, агульначалавечай культуры.***

Найперш маецца на ўвазе музей з каларытнай назваю "Спадчына". Ён створаны непасрэдна навучэнцамі, выкладчыкамі і майстрамі вытворчага навучання каледжа. У залах музея плошчаю 460 квадратных метраў ёсць магчымасць прасачыць гісторыю каледжа, гісторыю Магілёўскага раёна, безумоўна, на фоне развіцця гісторыі краіны.

Экспазіцыя налічвае больш за 900 экспанатаў. Гэта арыгінальныя дакументы, розныя прадметы, літаратура і г.д.

Вельмі лагічна, што залы "Спадчыны" сталі месцам правядзення ўрокаў дысцыплін гуманітарнага цыкла, класных гадзін, сустрэч з ветэранамі вайны, знакамітымі людзьмі раёна і вобласці, выпускнікамі каледжа.

Зразумела, ні на момант не спыняецца далейшая пошукавая работа, якая пастаянна ўзбагачае музейны фонд. Экспазіцыя падказвае маршруты па месцах баявой і працоўнай славы.

Другі музей прысвечаны творчасці знакамітага пісьменніка і паэта, ваеннага карэспандэнта Канстанціна Міхайлавіча Сіманава. Яго дапамагла стварыць расіянка, жанчына з цудоўнай душой Тамара Сяргееўна Бусько.

Прыязджаючы на сустрэчу з навучэнцамі каледжа (Тамара Сяргееўна не прапускае ніводнага дня нараджэння вядомага літаратара, каб прыехаць на Магілёўшчыну і наведаць знакамітае Буйніцкае поле, на якім быў развеяны прах паэта), яна прывозіць у музей усё новыя матэрыялы, ладзіць экскурсіі.

На базе музеяў працуе гуртoк "Краязнаўства". У ім з ліку навучэнцаў рыхтуюцца экскурсаводы.

**Святлана АРЛОЎСКАЯ,**
**выкладчыца каледжа.**

Фестывалі

## Крок у неба

***Сцэна Тэатра юнага гледача з 24 па 28 сакавіка была прадастаўлена IV Міжнароднаму фестывалю дзіцячых аматарскіх тэатраў "Крок у неба".***

Як паведаміў рэдакцыі наш няштатны аўтар, пісьменнік Уладзімір Міхно, у склад шматлікіх аматарскіх дзіцячых тэатральных калектываў хораша ўпісаліся і юныя тэатралы з Лепеля.

Узорная тэатральная студыя "Траяда" Цэнтра дзіцячай творчасці, мастацкім кіраўніком якой з'яўляецца Вольга Маханенка, на сцэне ТЮГа паказала спектакль па п'есе "Купалле ля Чэрцаў". Аўтар п'есы, дарэчы, Уладзімір Міхно.

У фестывалі дзіцячых аматарскіх тэатраў "Крок у неба" прынялі ўдзел юныя артысты з Омска і Санкт-Пецярбурга.

**Уладзімір НОВІК.**

